



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 ліпеня 2015 года №30 **(1056)**


## Вынеслі прыгавор былому дырэктару філіяла УП "Вілейкарайгаз"

старонка 2



# Перчык. Без права выбару

**Што рабіць, калі не дазваляюць выбраць тавар?**

**Чытайце на 3-й старонцы**

Фота Настассі РОЎДЫ.

КАРУПЦЫЯ

# Вынеслі прыгавор былому дырэктару філіяла УП "Мінаблгаз"

ВІЛЕЙКА

**Яго пазбавілі волі на два з паловай года.**

Як паведамляе ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС Беларусі, супрацоўнікі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй па Мінскай вобласці ўстанавілі, што на працягу шасці гадоў дырэктар "Вілейкарайгаза" **Анатоль Маркевіч** выкарыстоўваў сваё службовае становішча з асабістымі мэтамі.

З 2006 па 2012 год ён прыцягваў падначаленых для работы за межамі газавай гаспадаркі.

**У працоўны час яны займаліся ўборкай бульбы, зборам грыбоў, рамонтам кватэр і катэджаў.**

Наймальнік жа выплачваў ім толькі афіцыйную заработную плату, фактычна пертварыўшы людзей у рабоў на будпляцоўках.

У кола "замоўцаў" бясплатнай працы ўваходзілі не толькі зламыснік, яго радня, але і шматлікія знаёмыя: раённыя чыноўнікі і кіраўнікі прадпрыемстваў.

Не засталіся па-за ўвагай праваахоўных органаў і факты нямэтавага выкарыстання службовай тэхнікі, аўтатранспарту. Істотнае павелічэнне нагрузкі і працоўных затрат іншых работнікаў, якія выконвалі вытворчыя задачы падчас адсутнасці калегаў, таксама былі ўлічаныя пры прызначэнні пакарання.

Усяго на судовым пасяджэнні было апытана больш за 30 рабочых, якія выконвалі незаконныя распараджэнні свайго кіраўніка і пацвердзілі доказы абвінавачання.

– У выніку злачыннай дзейнасці дырэктар "Вілейкарайгаза" нанёс урон асабістым інтарэсам і правам работнікаў прадпрыемства, а таксама матэрыяльны ўрон у буйным памеры, – рэзюмаваў начальнік ГУБАЗіК МУС па Мінскай вобласці **Віктар Шапавал**. – Каб даказаць віну фігуранта справы, аператыўнікі некалькі месяцаў праводзілі спецмерапрыемствы па пошуку доказаў і ўстанаўленні сведак.

За злачынства, прадугледжанае ч. 2 арт. 424 КК (злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі) суд прызначыў абвінавачваному пакаранне ў выглядзе двух з паловай гадоў пазбаўлення волі і штрафу ў памеры 300 базавых велічынь. Акрамя таго, ён будзе на тры гады пазбаўлены права займацца дзейнасцю, звязанай з арганізацыйна-распарадчымі функцыямі і матэрыяльнай адказнасцю.

Паводле слоў Віктара Шапавала, многія кіраўнікі і чыноўнікі ў райцэнтрах лічаць нормай перыядычна карыстацца сваім службовым становішчам з асабістымі мэтамі. Яны не баяцца, напрыклад, адпраўляць падначаленых да сябе на дачу ў працоўны час, каб выкапаць траншэю ці пакласці плітку, выкарыстоўваць службовае аўто ці тэхніку для ўласных патрэб.

– Службовым асобам трэба памятаць, што менавіта яны, маючы значна больш спакусаў і магчымасцяў "свайго крэсла", знаходзяцца пад пільным кантролем праваахоўных органаў, – нагадаў Віктар Шапавал.

**Паводле БелаПАН.**



Фота pohodenki.com.ua.

У працоўны час падначаленыя займаліся ўборкай бульбы, што ніякім чынам не звязана з газавай гаспадаркай.



Фота Настассі УРАДОВІЧ, "Наша Ніва".

20 ГОД "РГ"

## Пра "РГ" гаворыць Глеб Лабадзенка

**Журналіст, благер, паэт. Трое журналістак "РГ" скончылі Школку маладых журналістаў пры рэдакцыі пад яго кіраўніцтвам.**

– Калі б мне давялося рабіць газету, то, напэўна, яна была б такая, як "Рэгіянальная газета". Яна ствараецца, у добрым сэнсе, па-дамашняму.

Я адчуваю ў выданні тое, што ў бізнесе называюць кліентаарыентаванасцю. На справе – любоў і павагу да чытачоў, якім на старонках надаецца галоўнае месца.

Часта ад рэдактараў даводзіцца чуць: "Мы ведаем, што трэба нашаму чытачу, а што не". Я не заўсёды ўпэўнены ў тым, што гэтыя людзі ўяўляюць свайго чытача. Затое калі чытаю "РГ", добра разумею, хто іншыя чытачы газеты.

Цікавы феномен, што супрацоўніцы газеты прайшлі школу журналістыкі і атрымалі першы досвед у прафесіі менавіта ў "РГ". Атрымоўваецца, яны выдатна разумеюць, што ад іх патрабуецца, бо тут яны вучыліся. Паняцце фармату не ламае іх асобу, бо гэта выглядае цалкам натуральна.

**Хоць у журналістыцы ёсць жорсткія нормы, стандарты і правілы, якім вучаць ва ўніверсітэце і на курсах, для мяне асабіста заўсёды важная душа і асоба. І гэта тое, што я бачу ў "РГ".**

Маючы магчымасць параўноўваць, без нейкай лісліваcці і абсалютна шчыра магу сказаць, што сярод тых двух-трох газет, якія я чытаю з задавальненнем, "РГ" – на ўзроўні. Людзі разумеюць, што яны робяць. І ў выніку атрымоўваецца вельмі мілы і сімпатычны прадукт.

**Настасся РОЎДА.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Сёлета ў аварыях загінула 78 чалавек: дзе і па чыёй віне

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

**Ад пачатку года ў Мінскай вобласці здарылася 430 аварый.**

У іх загінулі 78 чалавек, 453 – атрымалі раненні. 35 ДТЗ адбылося з удзелам нецвярозых кіроўцаў.

Супрацоўнікі дзяржаўтаінспекцыі затрымалі больш за тры тысячы нецвярозых кіроўцаў. У тым ліку каля 200 – паўторна цягам года.

ДАІ Мінскай вобласці адзначае абвастрэнне абстаноўкі з аварыйнасцю і большую колькасць загінулых за апошні тыдзень па віне "бяспраўных" і нецвярозых кіроўцаў. Таму Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна ад 24 па 27 ліпеня ладзіць прафілактычную акцыю "Цвярозы кіроўца".

Калі вы сталі відавочцам кіравання транспартам у нецвярозым стане, тэлефануйце: **(8-0176) 77-16-56** альбо **102**. Магчыма, ваша інфармацыя ўратуе жыццё аднаму чалавеку і не дазволіць зламаць лёс іншаму.

**Уладзімір МУРЫКАЎ, часовы выканальнік абавязкаў начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

## Пройдзе прыём экзаменаў па кіраванню матацыклам

МАЛАДЗЕЧНА

**Пры паспяховай здачы экзаменаў па правілах дарожнага руху і практычным кіраванні шаснацацігадовым выдадуць пасведчанні кіроўцы.**

Рэгістрацыя ўдзельнікаў пройдзе ў суботу, 25 ліпеня, на аўтадроме Маладзечанскага ДТСААФ па адрасе: Маладзечна, вул. Віленская, дом 64, тэлефон: **73-48-00**, **73-56-03**, **74-53-45**, **74-53-47**. Пачатак у 08.00 гадзін.

Экзамен прымаюць аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС разам з ДТСААФ.

На мэце – прафілактыка і папярэджанне ДТЗ з удзелам матацыклістаў, папулярызацыя выконвання правіл дарожнага руху, дапамога моладзі ў атрыманні пасведчання кіроўцы на права кіравання матацыклам.

**Уладзімір МУРЫКАЎ, часова выконваючы абавязкі начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

ЗДАРЭННІ

## У Маладзечне чацвёра хуліганаў за вечар збілі дзевяцярых гараджан

МАЛАДЗЕЧНА

**Хлопцы арганізавалі "засаду" 21 чэрвеня побач з домам па Скарыны.**

Хлопцы арганізавалі "засаду" 21 чэрвеня побач з домам па Скарыны.

Сваімі ахвярамі чацвёрка абірала маладых людзей. Узрост пацярпелых ад 16 да 23 гадоў. Гэта ў асноўным школьнікі і навучэнцы каледжаў, распавёў "РГ" намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце Уладзімір Васількоў.

Збівалі мінакоў без прычыны. Прычым тра-іх – у пад'ездзе дома па Скарыны. Нападнікі маладзілі рукамі па тулаву і галаве.

На месцы здарэння засталося шмат "слядоў".

Аднаго з магчымых удзельнікаў крымінальнай групоўкі затрымалі – 17-гадовага хлопца.

Узбуджаная крымінальная справа. Ідзе следства.

У міліцыю пра выпадак паведаміла маці аднаго з пацярпелых.

**Аддзел інфармацыі.**

● МАЮ ПРАВА

МАЛАДЗЕЧНА

**– Што рабіць, калі табе не дазваляюць выбраць тавар? – Разбіцца аб сцяну, – сказаў адзін мой знаёмы.**

А можа не так усё і трагічна, асабліва калі паглядзець на гэта крыху з усмешкай.

На мінулым тыдні пайшоў на рынак спажыўтаварыства, так званы "калгасны рынак", жонка папрасіла купіць пару перчыкаў. Прыязджалі госці, трэба было аздобіць стол. Сваёй цыбулі і салаты, балазе, ужо нарасло.

Перцу, як той казаў, мора. Падыходзь і выбірай. Ну я і падышоў да адной прыветлівай жанчыны. Павітаўшыся, паклаў з выстаўленага ў скрыньцы на прылаўку тавару два перчыкі на вагі. Ну не першы раз на базары. Выбраў, на мой погляд, не самыя горшыя экземпляры.

Увага, як я толькі гэта зрабіў, твар прадавачкі радыкальна змяніў настрой:

– У мяне не выбіраюць! Я сама вам пакладу, – перац з вагаў умомант перакачаваў назад у скрынку. Адзін зялёны, адзін чырвоны!

Па-праўдзе, чырвонага там і не было, ружовенькія такія, але нішто сабе.

Ды навошта мне "нагрузка", якой я быў сыты яшчэ за савецкім часам? У нас жа свабода. Ва ўсякім разе перчык я сабе змагу выбраць. Упэўнены ў сваёй праўдзе, парырую:

– Я куплю тое, што я выбраў.

– У мяне – не!

Ну і што мне, беднаму, рабіць?

У рэшце пасля маіх пошукаў тэлефона дырэктаркі рынку, тэлефоннага званка ёй (яна мяне выслухала і прыслала кантралёра) я "з боем" купіў тое, што хацеў. І нават бэджык прадавачка па маёй просьбе начапіла. І нават паклала перчыкі ў пакецік, праўда, за 500 рублёў.

На гэтым гісторыя закончылася? Ну што вы! Прыехаў мой зяць, які захацеў схадзіць на рынак. Я пераказаў яму свае прыгоды з перчыкам. Той загарэўся таксама купіць у той самай прадавачкі такі самы перчык. Тым больш, што тэлефон дырэктара рынка ў яго ўжо быў.

Ну і што? Тое самае. Толькі на цэнніку ўжо было дапісана: "Без права выбару". Ну ці штосьці такое. І кіраўніцтва рынку хутка адрэагавала. Не першы ж званок за дзень ад пераборлівых пакупнікоў. Зяць мой кантралёра не дачакаўся, усё вырашылася куды больш аператыўна, і нават пакецік ужо быў бясплатным.

Увага. І гэта яшчэ не ўсё. Праз нейкую гадзінку размаўляю са сваёй знаёмай, якая толькі што атрымала адпускныя:

– Схаджутка я на базар, дыньку куплю!

– Наташа, а што калі ты зойдзеш на рынак і купіш два перчыкі? – канечне, усё што трэба я расказаў. І нумар гандлёвага месца, і тэлефон дырэктара запісаў.

– З найвялікшым задавальненнем! – выпаліла Наташа і паімчалася на базар.

Не ведаю, ці купіла яна дыньку. А перчык – так. І самы лепшы. Падазраю, што нават лепшы, чым я. Бо…

Калі дзяўчына падышла да рэкамендаванага мной гандлёвага месца і спыталася, ці можна ёй выбраць перчык, прадавачка цяжка ўздыхнула:

– Канечне, калі ласка! А то мяне сёння з гэтымі перчыкамі ўжо дасталі. Выбралі? За 30 тысяч кілаграм? То я вам палічу як за 25.

Забыўся я ў Наталлі толькі спытаць, ці пакецік быў бясплатным.

Хочацца перчыку? Зайдзіце, калі ласка, на рынак на 210 гандлёвае месца. Можа і сёння там гандлюе тая цудоўная жанчына. Імя і прозвішча выдаваць не буду. Няхай гэта застанецца нашай тайнай.

У заключэнне віншую ўсіх з надыходзячым прафесійным святам. Упэўнены, што спагадлівых і ветлівых прадаўцоў – бальшыня. Як і пакупнікоў. Добрага вам настрою!

**Мікола ГАЙДУК.**

# Перчык. Без права выбару

## Што рабіць, калі табе не дазваляюць выбраць тавар?



З размовы з прадавачкай на рынку райспажыўтаварыства **Янай Самсановіч**:

**– Ці даяце вы сваім пакупнікам магчымасць выбраць тое, што ім хочацца?**

– Ёсць прадукты, якія спакойна можна выбраць з тых, што ляжаць на прылаўку. Але ёсць, да прыкладу, памідоры. Адзін чалавек прыйдзе і пачне накладваць сабе два кіло. За ім у чаргу стане яшчэ адзін за тымі ж памідорамі, але выбіраць не будзе з чаго. Я не паспею адразу ж выкласці новыя на вітрыну. Атрымліваецца, гэтае бясконцае выкладанне – двайная праца. Я даю пакупніку права выбіраць. Калі ласка. Аднак можна прагледзець тыя, якія я накладу сама і сказаць, што трэба замяніць.

**Настасся РОЎДА.**

Фота Настассі РОЎДА.

● КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

Сітуацыю мы папрасілі пракаментаваць загадчыцу сектара праваной і кадравай работы ўпраўлення гандлю і паслуг Мінаблвыканкама **Наталлю Мікульскую**.

Наталля Аляксееўна пагаджаецца, што пакупнік мае права выбару, незалежна ад таго, купляе ён што ў краме, ці на рынку. І такое права яму гарантуе "Закон аб абароне правоў спажыўца". У прыватнасці ў пункце 1.3 артыкула 5, прама сказана, што спажывец мае права на "свабодны выбар тавараў (работ, паслуг)".

Што ж рабіць, калі ўсё ж вам прадавец не даў вам магчымасць свабодна выбраць тавар? Можаце паскардзіцца. І калі ў прадаўца няма кнігі скаргаў, то такая абавязкова будзе ў адміністрацыі рынка. У нашым выпадку сітуацыю дапамагла выправіць адміністрацыя рынка.

ЛІЧБА НУМАРА

**29,4 тысячы**

новых кватэр пабудавалі ў студзені-чэрвені 2015 года ў Беларусі

2,7 мільёна квадратных метраў жыллёвай плошчы ўвялі ў эксплуатацыю

Паводле Нацстат

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

| Курсы валют НБ РБ | 16.07 | 23.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 330,00 | **15 197,00** |
| Еўра | 16 834,00 | **16 615,00** |
| Злоты | 4 071,98 | **4 011,93** |
| Расійскі рубель | 268,60 | **266,51** |
| Грыўня | 695,24 | **689,34** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 22.07** | | |
| Еўра | 16800/17050 | **16450/16680** |
| Долар ЗША | 15280/15450 | **15150/15300** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 15.07 | 22.07 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53700 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37800 | **37800** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 19000 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **4900** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **37000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9800 | **9500** |
| Капуста, 1 кг | 6500 | **5500** |
| Морква, 1 кг | 19500 | **14900** |
| Буракі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Лімоны, 1 кг | 38000 | **38000** |
| Апельсіны, 1 кг | 29500 | **26500** |
| Мандарыны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 34900 | **29000** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **39500** |
| Нектарыны, 1 кг | 26500 | **28500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 26900 | **24900** |
| Чарэшні, 1 кг | 20000 | **39000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **14900** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 18000 | **13000** |
| Вінаград, 1 кг | 37000 | **32500** |
| Бананы, 1 кг | 16500 | **15500** |
| Кавун, 1 кг | 6000 | **5000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 13000 | **10000** |
| Яблыкі, 1 кг | 18500 | **16500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29500 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 6900 | **6900** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

● ТРАНСПАРТ

## "Мінсктранс" пускае рэгулярныя рэйсы па маршруце Мінск–Вільня праз Ашмяны

АШМЯНЫ

Рэгулярныя рэйсы па нядзелях па маршруце Мінск-Вільня праз Ашмяны пачнуць працу ад 26 ліпеня.

Рэйс з Мінска ад аўтавакзала "Цэнтральны" будзе адпраўляцца ў **01:35**, з Вільні – у **17:00**.

**Minsknews.by.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# За год крымінальная групоўка зарабіла 700 мільёнаў рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 2013 па 2014 год 44-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна стварыў і кіраваў арганізаванай групай, якая займалася незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю – прадавала спіртазмяшчальную вадкасць. У групе было пяць удзельнікаў.**

– Роля кожнага была строга рэгламентаваная. Удзельнікі групы сістэматычна набывалі і дастаўлялі з-за мяжы спіртазмяшчальныя вадкасці, складзіравалі і захоўвалі іх на Маладзечаншчыне, шукалі кліентаў для нелегальнага продажу жыхарам Міншчыны, атрымлівалі даход ад незаконных здзелак, а таксама фінансавалі сваю злачынную дзейнасць, – расказала нашаму выданню афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.

Каб не прыцягваць увагу, удзельнікі распрацавалі сістэму мер засцярогі. Напрыклад, выкарыстоўвалі розныя метады канспірацыі, каб староннія не даведаліся пра месца захоўвання тавару.

Устанавілі 500 эпізодаў супрацьпраўнай дзейнасці фігурантаў. Арганізаваная група незаконна атрымала даходу за год каля 700 мільёнаў рублёў.

**При ператрусе ў аднаго з абвінавачаных канфіскавалі 10000 долараў ЗША, чатыры аўтамабілі, якія выкарыстоўвалі фігуранты ў злачыннай дзейнасці.**

Знайшлі каля 3000 пяцілітровых ёмістасцяў са спіртам.

Падчас следства накалалі арышт на маёмасць абвінавачаных на суму больш за 2,5 мільярды рублёў.

Матэрыялы крымінальнай справы перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**




При ператрусе аднаго з абвінавачаных канфіскавалі 10000 долараў ЗША.

ПРАКУРАТУРА, СУД

## Нецвярозым узяў бацькаў аўтамабіль – бацька падаў у суд

МАЛАДЗЕЧНА

**Аўтамабіль у яго не канфіскавалі.**

Калі чалавек сеў за руль нецвярозым альбо калі перадаў кіраванне нецвярозаму ці адмовіўся праходзіць праверку (напрыклад, на цвярозасць), пасля разбіральніцтва ў яго могуць забраць аўтамабіль. Прычым незалежна ад таго, каму належыць машына.

У гэтага правіла ёсць адно выключэнне. Не канфіскуюць транспарт, які ў законнага ўласніка ўзялі супраць яго волі.

Сёлета суд Маладзечанскага раёна толькі аднойчы сутыкнуўся з дадзеным выключэннем.

У 2012 годзе абвінавачанага асудзілі за кіраванне ў нецвярозым стане. Тады яму далі год пазбаўлення волі і забаранілі садзіцца за руль бліжэйшых пяць гадоў.

Але праз пару гадоў, у лістападзе 2014-га, ён зноў сеў п'яны за руль. Прычым не свайго аўтамабіля, а бацькінага, які нічога не падазраваў.

Як толькі бацька даведаўся пра ўчынак сына, а здарылася гэта ў той жа дзень, то звярнуўся ў міліцыю. Пасля ён падаў адпаведную заяву ў суд Маладзечанскага раёна.

Сёлета ў студзені абвінавачанага асудзілі. У маі прыгавор уступіў у законную сілу.

Абвінавачанага пазбавілі волі на два гады з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу. Таксама яго пазбавілі права цягам пяці гадоў займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартам. Далі штраф – 300 базавых велічынь ці 54 мільёны рублёў.

З аўтамабіля, якім кіраваў абвінавачаны ў момант здзяйснення злачынства, арышт знялі.

**Па інфармацыі Вікторыі ПАЛЯШЧУК, старшага памочніка пракурора Маладзечанскага раёна, юрыста 2 класа.**

ВЫШУК

## Шукаюць жанчыну, якая пайшла ў лес і не вярнулася

ВІЛЕЙКА

**Вілейскі РАУС устанаўлівае месцазнаходжанне зніклай без вестак Марыі Юр'еўны Козел.**



Ёй – 62 гады, ураджэнка вёскі Юхавічы Маладзечанскага раёна.

Жанчына 10 ліпеня гэтага года пайшла ў лес паблізу вёскі Малявічы Вілейскага раёна. Да гэтага часу яе месцазнаходжанне невядомае.

**Яе прыкметы:** на выгляд 60-65 гадоў, мажная, валасы сярэдняй даўжыні з сівізной, вочы блакітныя.

**Была апранутая:** чырвоная хустка, цёмна-сіняя байка на замку, чорныя штаны і гольф, цёмна-зялёныя гумовыя боты, чорныя шкарпэткі.

Пры сабе мела белы металічны бітон ёмістасцю два літры.

**Асаблівыя прыкметы: у верхняй сківіцы адсутнічае пяць зубоў.**

Калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне жанчыны, паведамляйце па тэлефонах: 8029 5076686, 8033 3143042 або 102.

**Аддзяленне крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Чацвёрка маладзёнаў накрала, каб добра пагуляць

ВАЛОЖЫН

**Крадзяжы цягнуліся ад красавіка па ліпень, распавяла старшы следчы Валожынскага райаддзела Следчага камітэта Юлія Селятыцкая.**

За гэты час маладыя людзі 19-22 гадоў паспелі скрасці два наборы колаў, адзін з якіх каштуе 20 мільёнаў рублёў, а другі – 21. Таксама сцягнулі будаўнічыя інструменты. На вылазку па матацыклы выйшлі толькі двое з чацвёркі.

Дарэчы, матацыкл міліцыя знайшла і вярнула гаспадарам. Інакш бацькам злодзеяў давялося б вяртаць грошы і за яго. Уладальнікам колаў страту кампенсавалі.

Па месцы жыхарства і вучобы хлопцаў характарызавалі станоўча. Адзін з іх з Оршы і трое – з Ракава.

Старшыня сельсавета дадаў, што сем'і гэтых маладых людзей карыстаюцца аўтарытэтам.

**Аддзел інфармацыі.**

## Затрымалі за зліў паліва

АШМЯНЫ

**Кіраўніцтва адной з паліўных кампаній доўгі час падазравала свайго супрацоўніка ў прысабечванні гаручага.**

На гэты раз за кіроўцам, жыхаром Мінскага раёна, вырашылі прасачыць. І калі ён паспрабаваў зліць паліва, яго "схапілі за руку".

Кіроўцу цягача абвінавачваюць у спробе скрасці з прычэпа бензавоза 380 літраў дызельнага паліва, якое каштуе больш за 4,5 мільёна рублёў.

Праводзіцца праверка. Справу перададуць у пракуратуру, дзе працягнецца разбіральніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## На пажары загінуў 44-гадовы мужчына

МЯДЗЕЛ

**Вечарам 18 ліпеня мядзельскім выратавальнікам паведамілі, што гарыць жылы дом у пасёлку Будслаў.**

Патэлефанавала суседка. Калі выратавальнікі прыбылі на месца, гарэла веранда дома. У двары быў гаспадар, пенсіянер. Ён сказаў, што ў доме застаўся яго сын. Той начаваў у верандзе.

Падчас тушэння пажару ў верандзе знайшлі цела 44-гадовага мужчыны, расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Малько**.

Меркаваная прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні.

**Аддзел інфармацыі.**

ВЫШУК

## Шукаюць жыхарку Нарачы

МЯДЗЕЛ

**На Мядзельшчыне працягваюцца пошукі Жанны Уладзіславаўны Каравацкай. Ёй 45 год, жыхарка вёскі Нарач (Кабыльнік).**



Яна раніцай 17 ліпеня накіравалася ў Мядзел. Наведала бальніцу і знікла. Па стане на 14 гадзін серады жанчыну не знайшлі.

– Вядзем пошукі, – расказаў першы намеснік начальніка Мядзельскага РАУС **Аляксандр Філіпчык.** – У сераду, напрыклад, на пошукі накіраваліся 47 супрацоўнікаў міліцыі.

**Прыкметы жанчыны:** рост 163 сантыметры, шчыльнага целаскладу, вочы блакітныя, валасы светла-русыя. Была апранутая ў чорную доўгую спадніцу, бела-чорную шыфонавую блузку.

Калі хто валодае інфармацыяй пра месцазнаходжанне жанчыны ці бачыў яе, тэлефануйце па нумары **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Міліцыя не расчаравалася скарачэннем работы клубаў

## Тры ўстановы для начных тусовак у Маладзечне зачыніліся

МАЛАДЗЕЧНА

**З пяці начных клубаў горада тры зачыніліся. Ці звязана гэта са скарачэннем іх працы да трох гадзін ночы? Ці апраўдала абмежаванне часу спадзеў міліцыі, што бойкі і крадзяжы сярод наведнікаў знізяцца?**

Карэспандэнтка "РГ" сустрэлася з начальнікам Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў **Валянцінам Асіповічам**, каб абмеркаваць, як змянілася начное жыццё за гэты час.

Ужо больш за тры месяцы ў горадзе начныя клубы працуюць да трох гадзін ночы. Дагэтуль Маладзечна было адзіным месцам у рэгіёне, дзе тусавацца можна было да пяці раніцы.

Пасля гадзіны ночы сюды ехалі наведнікі з Вілейкі, Валожына, Смаргоні. Гэта было натуральна, паколькі калі "дома" ужо ўсё зачынена, а на гадзінніку далёка да пяці, мела сэнс рвануць у Маладзечна.

Калі для наведнікаў гэта магчымасць добра пагуляць, для міліцыі – дадатковы галаўны боль. Маладыя людзі, звычайна ўжо нападпітку, прыязджалі і часам не знаходзілі паразумення з мясцовай моладдзю. Пачыналіся высвятленні адносінаў, разборкі. Ды і ехалі яны звычайна на машыне, а ноччу нецвярозыя кампаніі ў асаблівай зоне рызыкі.

– Цяпер гэтай праблемы няма, таму што жыхарам суседніх раёнаў няма сэнсу ехаць у Маладзечна. Вядома, не ўсіх задаволіла наша рашэнне, аднак мы мусілі зрабіць так, каб у клубах і побач з імі было бяспечна, – тлумачыць Валянцін Асіповіч. – Мы асабіста размаўлялі з адміністрацыяй кожнага клуба і тлумачылі, што калі яны зробяць так, што ў іх не будзе праблем ні з бойкамі, ні з крадзяжамі, то калі ласка. Працуйце да пяці. Але сітуацыя ніяк не мянялася. Мы былі абавязаныя прымаць меры.

Усе клубы праходзілі спецыяльны агляд, які праводзіла міліцыя. Правяралі, ці ёсць відэакамеры, наколькі якасная атрымоўваецца карцінка, ці ёсць кнопка выкліку міліцыі і іншыя тэхнічныя рэчы.

Часам не толькі ад гэтага залежыць бяспека наведвальнікаў. Галоўнае, заўважае Валянцін Пятровіч, каб адміністрацыя начных клубаў зразумела, што, у першую чаргу, яны самі павінны клапаціцца пра бяспеку кліентаў.

### Ці правільна, што дазваляюць сыходзіць і вяртацца

Чалавек уваходзіць у клуб, дае грошы, атрымлівае пячатку ці бранзалет, якія паказваюць, што ён заплаціў, і ідзе на вечарынку. Ніхто не забараняе яму ў любы момант сысці, а потым у любы момант вярнуцца. Здаецца, усё правільна: можа тэрмінова трэба адысці, дык што, другі раз плаціць? Падаецца, таксама нелагічна. Аднак часта гэта цягне за сабой калі не праблемы, то непаразуменні.

– Калі клубы дазваляюць наведнікам выходзіць і вяртацца, то павінны кантраляваць відэакамеры, усталяваныя ля выхада на вуліцу. Часам ахоўнікі мяркуюць, што іх праца тычыцца толькі таго, што адбываецца ўнутры клубаў. Аднак ім варта клапаціцца і пра тое, што адбываецца ля іх, – распавядае Валянцін Пятровіч. – Калі ўзнікаюць канфліктныя сітуацыі, часта можна пачуць "пайшлі на вуліцу, разбяромся". Ахова можа папярэдзіць сутычку ці своечасова выклікаць міліцыю. Часам мы дазнаемся пра здарэнні на наступны дзень, калі пацярпелыя ці сведкі працвеpазеюць і тэлефануюць самі. Узгадаць штосьці ім ужо складана. Альбо ад медыкаў, якія аказвалі камусьці дапамогу і дазналіся пра выпадак.

На думку начальніка РАУС, трэба, каб ахоўнікі больш адказна ставіліся да сваёй працы. Добра, калі ахоўнік можа папярэдзіць канфлікт, своечасова заўважыць напружанне паміж людзьмі, пагаварыць.

– Часам людзі незадаволеныя тым, што ахоўнікі паводзяць сябе рэзка, – кажа Валянцін Асіповіч. – Гэта таксама важна. Ім трэба быць гнуткімі і з павагай ставіцца да ўсіх кліентаў. Ахоўнікі не могуць выбіраць: "Гэтага пусціце, а гэтага – не, таму што мне так хочацца". Ім трэба знаходзіць паразуменне з усімі. Гэта праца. І яе трэба выконваць добра.

### Людзі змогуць паспаць перад тым, як ісці на працу

Цяпер у клубах стала спакайней, сцвярджае Валянцін Асіповіч. На яго думку, рашэнне скараціць працу клубаў можа кагосьці вымусіць пайсці спаць раней. Хтосьці перад працай зможа якніяк, але адпачыць.

За апошнія пару месяцаў у Маладзечне паспелі зачыніцца тры начныя клубы. Апошняя вечарына ў "Клабе", анонс якой змешчаны ў іх суполцы "Укантакце", датуецца 22 мая. У "Магніце" – 1 і 2 мая. Тут на галоўнай старонцы вісіць падзяка ўсім наведвальнікам за тое, што 20 гадоў былі з імі. І "Нэо" – 6 чэрвеня.

Засталіся два – "Стэлс" і "Рэд бар". З апошнім, па словах начальніка РАУС, праблем не так шмат. Можа, таму што не так даўно працуе, можа, таму што наведнікі менш канфліктныя. Міліцыя не дае пэўнага адказу.

Колькасць здарэнняў ад красавіка:
1. "Стэлс" – 10
2. "Магніт" – 9
3. "Клаб" – 5

### Чаму закрыліся клубы

Паводле інфарматара, які пажадаў застацца неназваным, пасля абмежавання працы клубаў некаторыя з устаноў згубілі шмат наведнікаў. Раней пасля закрыцця большасці бараў і рэстаранаў людзі ішлі ў клуб. І якраз пасля дзвюх гадзін быў наплыў.

"Стэлс" збіраецца пераязджаць на месца "Клаба". Міліцыя ўздыхае з палёгкай, бо "Стэлс" знаходзіцца ў будынку інтэрната. Жыхары гадамі скардзіліся на шум, пра што неадночы пісала "РГ". Верагодна, цяпер праблема вырашыцца.

– Для мяне як для начальніка райаддзела міліцыі самае важнае – зрабіць так, каб было бяспечна, – кажа Валянцін Асіповіч. – Мы ведаем месцы, у якіх ноччу збіраюцца людзі. Накіроўваем туды нарады.

Гэтак жа ў час, калі зачыняюцца клубы, на асноўных вуліцах, што вядуць у спальныя раёны, таксама дзяжурыць міліцыя. Сочыць, каб людзі дабраліся дамоў без непрыемных прыгодаў.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



Фота webname.moscow.

Цяпер у Маладзечне працуюць толькі два начныя клубы.



ЗДАРЭННІ

## Маладога чалавека засыпала грунтам, калі ён капаў калодзеж

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося апоўдні 16 ліпеня. 25-гадовы малады чалавек загінуў.**

Гаспадар аднаго з дамоў у вёсцы Гервелі наняў двух маладых людзей, каб яны выкапалі ў двары калодзеж.

Падчас работ аднаго з іх засыпала ў калодзежы глыбінёй 25 метраў, распавяла "РГ" старшы следчы Валожынскага райаддзела СК **Юлія Селятыцкая**.

Ратавальнікі мяркуюць, што кольцы, якія ўкопваюць падчас будоўлі калодзежа, з-за зрушэння грунту ссунуліся ў бок. Маладога чалавека засыпала некалькімі тонамі зямлі.

Пасля атрымання паведамлення на месца выехала група МНС і супрацоўнікі міліцыі. Дастаць цела ў той жа дзень у сувязі з вялікай глыбінёй калодзежа не ўдалося.

На месцы працавалі альпіністы. Як адзначыла Юлія Селятыцкая, цягам пяці дзён выратавальнікі бесперапынна працавалі. Супрацоўнікі спалі там жа, на месцы. Яны змянялі адзін аднаго.

Побач увесь час знаходзіліся блізкія маладога чалавека. З імі працаваў псіхолаг.

Каля шасці раніцы 22 ліпеня ратавальнікі дасталі цела. Яго перадалі на экспертызу.

У сельсавеце распавялі, што малады чалавек быў добрым, прыстойным хлопцам. У жніўні ў яго мусіла быць вяселле.

Па інфармацыі tut.by малады чалавек працаваў ахоўнікам у ТАА "Гандлёвы дом "Ждановічы".

**Аддзел інфармацыі.**

## Знайшлі артылерыйскія снарады

ВАЛОЖЫН

**Іх раскапалі ў вёсцы Замасцяны.**

У суботу, 18 ліпеня, снарады знайшлі падчас выкопвання траншэі пад падмуркам, распавялі у аддзеле па надзвычайных сітуацыях. Адзін з іх даўжынёй 152 мм, другі – 203 мм.

Іх абясшкодзіла сапёрна-тэхнічная група.

**Аддзел інфармацыі.**

● АРХЕАЛОГІЯ

# Кафля ў Мядзельскім замку была як у Віленскім

МЯДЗЕЛ

**Менеджар замежнага банка і трэнер футбольнай каманды, грузчык і студэнтка. Каля 30-ці чалавек ўдзельнічалі ў раскопках на паўвостраве Замак у Мядзеле, дзе калісьці ўзвышаўся замак.**




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мікалай Плавінскі ля пано, якое прысвечана Мядзельскаму замку. Раскопкі пад кіраўніцтвам археолага праводзяцца на паўвостраве Замак трэці год запар.

Працягваліся раскопкі 26 дзён і завяршыліся на мінулым тыдні. Праводзілі іх на Замку трэці год запар.

– Як і ў мінулыя два гады, асноўнай мэтай было выявіць архітэктурныя збудаванні, структуру абарончых умацаванняў. Таксама важна было высветліць, дзе знаходзіўся так званы палац замка, – расказвае кандыдат гістарычных навук **Мікалай Плавінскі**. – Калі летась часткова раскрывалі мур вежы, які адкрыў **Міхась Ткачоў** у 1981 годзе, то сёлета сканцэнтравалі працы на выяўленні падмуркаў палаца. Зараз можна меркаваць што гэты вялікі будынак, які прынята лічыць палацам, быў не мураваны. Хутчэй за ўсё, драўляны, але на мураваным падмурку. Мураваны падмурак мы выявілі, і па яго характары можна думаць, што гэта ўсё ж такі падмурак пад нейкі вялікі, магчыма двухпавярховы, але драўляны дом.

## З гісторыі замка

– Цяпер можна больш дакладна казаць, што Мядзельскі замак будавалі ў канцы 15 стагоддзя Саковічы – вялікі род, які быў уладальнікам значнай часткі сённяшняй Мядзельшчыны. Будавалі замак як радавую рэзідэнцыю. Пасля род Саковічаў згасае, і па жаночай лініі замак пераходзіць да Радзівілаў. У 1518 годзе **Мікалай Радзівіл** становіцца князем на Мядзеле.

**Пасля гэтага, хутчэй за ўсё, у 40-я гады 16 стагоддзя замак пераходзіць да дзяржавы – становіцца вялікакняжацкім замкам.**

Уласна, як і мястэчка Мядзел.

Можна меркаваць, што вежу пабудавалі пры Саковічах. Такім чынам, астатнія збудаванні ўзведзеныя ці пры Радзівілах, ці ўжо калі замак стаў вялікняжацкім.

## Кафля, як у Вільні

Самыя цікавыя знаходкі і ў папярэдні сезон, і ў гэты – пячная кафля. Ёсць з выявай вежы.

– Самае цікавае ў гэтай кафлі, што яна мае найбліжэйшыя аналогіі з матэрыялаў раскопак Віленскага Ніжняга замка. Яшчэ ўпэўнена гэта сказаць нельга, але магчыма тут працавалі майстры, якія будавалі печы ў вялікакняжацкім замку ў Вільні, – кажа археолаг. – Гэта зноў жа паказвае, што ў першай палове 16 стагоддзя Мядзел меў значны статус рэзідэнцыі. Пасля, хутчэй за ўсё, адбываецца ваенная катастрофа ці то нейкае разбурэнне. Разбураецца вежа і замак становіцца драўляным.

На раскопках летась і сёлета выявілі ўмацаванні па схіле замкавага пагорка.

– Яны не былі мураваныя, як меркаваў Міхась Ткачоў. Схіл замкавага пагорка быў абмазаны глінай, і ўсталяваны тынвастракол па перыметры, які быў умацаваны камянямі. Прычым, і сам схіл замкавага пагорку і бастэі замкавыя мелі аднолькавыя ўмацаванні. Можам зараз больш-менш упэўнена сказаць, што гэта адбылося пасля разбурэння вежы, дзесьці ў сярэдзіне 16 стагоддзя. А канчаткова замак прыходзіць у заняпад не ў пачатку 18 стагоддзя, як раней лічылася, а дзесьці ў сярэдзіне 17. Верагодней за ўсе, гэта звязана з падзеямі вайны 1654-1667 гадоў. Прычым з сярэдзіны 16 па сярэдзіну 17 стагоддзя замак найверагодней функцыянаваў як абарончае збудаванне для жыхароў мястэчка – на выпадак нейкіх вайсковых дзеянняў.

Паралельна з раскопкамі **Мікола Воўкаў**, які працуе ў Нацыянальным гістарычным архіве, займаецца вывучэннем гістарычных звестак пра замак.

– Многае з таго, што зараз расказваю, гэта вынік яго працы з дакументамі, – дзеліцца Мікалай. –

**Самая галоўная праблема Мядзельскага замка, што няма яго інвентару.**

Калі б ён быў, то гэта ў разы б спрасціла нашу працу.

А тыя згадкі, што ёсць, яны вельмі нешматлікія, фактычна адзінкавыя.

**– За ўсе тры гады працы якое самае галоўнае адкрыццё?**

– Цяжка сказаць – гэта такая досыць манатонная праца. Нешта такое ўражвальнае тут вылучыць цяжка. Асноўнае, што вельмі моцна скарэктавалі ўяўленне, якое існавала да гэтага – тое, што напісаў Ткачоў. Гэта не значыць, што ён рабіў нешта не так. Ён прапанаваў сваю канцэпцыю, мы яе падкарэктавалі. Таму што ён капаў побач з вежай, мы за гэтыя гады раскрылі значна большую плошчу. Міхась Ткачоў быў вельмі вялікім рамантыкам, тут многія рамантычныя моманты скасаваліся: той жа мураваны палац, тая ж самая думка пра існаванне замкавых мураваных сцен.

## Паданні праверацць дайверы

Як, пэўна, і з любым замкам, з мядзельскім звязаныя шматлікія паданні. І пра патаемны мост, які стаяў ніжэй за ўзровень вады, і нават пра ход ад замка да касцёла пад возерам. Мяркуюць праверыць і іх.

– Увосень мы, напэўна, прыедзем з дайверамі, будзем шукаць, – кажа Мікалай Плавінскі. – Мяркуючы па тых планах 19 стагоддзя, самы лагічны шлях каб дабрацца да замка – гэта той жа накірунак, як і зараз, як ляжыць масток. І вось адгалінаванне ад Дробні, якое зараз зарослае, на плане добра бачна, што яно штучнае. Гэта, хутчэй за ўсё роў, які аддзяляў паўвостраў ад мястэчка.

Раскопкі праводзяцца дзякуючы райвыканкаму, падкрэслівае археолаг. Галоўная мэта на будучыню – работы па рэстаўрацыі замка.

– Гэта не адбудоўванне нейкай вежы, не стварэнне навадзелаў, а раскрыццё існуючых падмуркаў, магчымае частковае аднаўленне знешняга вонкавага выгляду ўмацаванняў і стварэнне нейкага музейнага комплексу. Гэта, натуральна, далёкая перспектыва. І патрэбна дзяржаўнае фінансаванне, бо цяжка ўявіць, каб раённы бюджэт мог такое сабе дазволіць. Гэта мільённыя выдаткі – і не ў беларускіх рублях.

А на бліжэйшы час мары археолага досыць простыя:

– Хацелася б, каб паўвостраў прывялі ў парадак, зрабілі нармалёвыя падыходы, інфармацыйную шыльду. Бо сёння турысту цяжка даведацца, дзе гэты замак быў. Мары-марамі, трэба кароткімі перабежкамі працаваць, канкрэтныя моманты вырашаць. Правялі раскопкі, цяпер можна зрабіць буклет па замку для турыстаў, каб ляжаў у музеі, у шапіку "Белсаюздруку". А далей будзем глядзець – я надалёка не загадваю.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

● НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## На памяць застануцца кніга і вырабы

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча праходзіць выстава **Алы Ягоравай** з горада Старая Руса ў Расіі.

Цяпер яна працуе настаўніцай выяўленчага мастацтва ў Александрынскай гімназіі Санкт-Пецярбурга.

На выставе можна пабачыць працы ў розных тэхніках: графіка, аўтарская інтэр'ерная лялька, сілуэт (выцінанка).

На адкрыцці выставы Ала Ягорава падарыла музею кнігу "Усе плакаты Першай сусветнай вайны" – ведала, што ва ўстанове шмат увагі ўдзяляюць гэтай тэме. А майстрысе ўручылі кнігу "Беларуская выцінанка", – расказаў дырэктар краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

На памяць пра выставу застануцца ў музеі вырабы мастачкі. Яна паабяцала па заканчэнні выставы падарыць установе тыя вырабы, якія прыйдуцца даспадобы.

Працягнецца выстава прыкладна да 10 жніўня.

## Фота і ўспаміны нарачанскіх рыбакоў паказваюць на выставе

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы праходзіць выстава пад назвай "Рыбакі, нарачане, сяляне, сабірайцеся ўсе ў грамаду…".

Прысвечаная яна 80-годдзю паўстання нарачанскіх рыбакоў, – расказала навуковы супрацоўнік музея **Таццяна Пісарчык**.

На выставе прадставілі фотаздымкі, дакументы, рукапісныя ўспаміны ўдзельнікаў паўстання.

Таксама ёсць карціны з відамі азёр Нарачанскага краю.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## "Час жыць" запрашае на канцэрт

МАЛАДЗЕЧНА

У суботу, 25 ліпеня, пройдзе канцэртная праграма "Мы гаворым пра жыццё". Удзельнікі чацвертага Фестываля моладзевых творчых ініцыятыў "Час жыць".

Пра гэта паведамляе аддзел па інфармацыйнай рабоце Палаца культуры.

Пачатак а 15 гадзіне ў амфітэатры. Уваход свабодны.

**Аддзел інфармацыі.**

ФУТБОЛ

# Самы брутальны варатар 90-х: як маральна забіць суперніка адной рукой

МАЛАДЗЕЧНА

**Самы брутальны варатар 90-х гадоў Мікалай Абрамовіч гуляў тады, калі футбалісты папросту маглі знікнуць на пару тыдняў, здымаўся ў двух серыялах і сядзеў на хіміі.**

**– Чым вы цяпер займаецеся?**

– Давай скажам, што будаўніцтвам. Аздабленнем, у асноўным, але наогул усім. З гэтым сваім будаўніцтвам нават у Сачах пабываў, е-маё. Будаваў трамплін для скакуноў. Нармальна было. Але гэта ўжо пасля футбола. Я ў ПТВ №87 вучыўся. Цяпер яго ўжо няма. Слесар-інструментальшчык. У савецкія гады самыя багатыя людзі былі. Больш за тысячу рублёў атрымлівалі, калі іншыя мелі 150.

**– Вучоба была звязана з футболам?**

– Хоць я і ў футбольным спецкласе вучыўся, але не. Прыдумалі ў нас у 11-й школе такую штуку. У 1986 годзе скончылі свае дзесяць класаў. Праўда, у прафесійны футбол патрапілі толькі два вучні – я і **Віталя Казяк**. Хоць, шчыра сказаць, я хакеістам хацеў стаць. Вельмі добра ў мяне атрымлівалася. Жыў каля каробкі хакейнай, вось і гуляў пастаянна. Але раней у Маладзечне не было лядовага палаца.

Займацца было няма дзе. Так што калі сусед у першым класе павёў мяне на футбол, я слова супраць не сказаў. Потым уцягнуўся і прывык. Калі падрос, мяне сталі выклікаць у зборную БССР ад таварыства "Працоўныя рэзервы". Аднойчы нават ездзіў на Кубак Льва Яшына ў Малдавію. Для гэтага трэба было прывесці дакументы ў парадак. Вось мяне і адправілі ў ПТВ, каб ксіву атрымаць адпаведную. Добра, што на лепшую з магчымых прафесій. Я ўдзячны. Вучыўся пры гэтым не для галачкі. Нармальна – трэці разрад атрымаў. Мы з надфілем працавалі, прэс-формамі і іншымі штукамі, якія штампуюць дэталі. Добрая справа, дарэчы, добрае бабло.

**– Больш, чым у футбалістаў?**

– Гы :) Так. Ну, вось што тады мелі футбалісты? Я гуляў за завод лёгкіх металаканструкцый. Хлопцы ў Віцебску дах амфітэатру рабілі, каб ты разумеў, на "Мінск-Арэне" нейкія працы выконвалі. Увогуле, гуляў я за завод і атрымліваў грошы на харчаванне ды 50 рублёў за перамогу. Амаль нічога.



Фота Мікіты МЕЛКАЗЁРАВА.

Мікалай Абрамовіч.

**– Вы заўсёды такім фактурным былі?**

– У дзяцінстве зусім малым – 1,72 см ростам. Гэта армія мяне выцягнула. Калі дэзембільнуўся, стаў 1,92 см. Спачатку служыў у Варонежы. Але потым мяне за добрыя паводзіны адправілі ў Туркменію. А там суцэльныя вітаміны – дыні, кавуны, вінаград, плюс рэжым. Паводзіў бы сябе нармальна, атрымаў бы кірунак у Маладзечна. Тут у нас вельмі ўрадавай сувязі. Але атрымалася так, што мы неяк чысцілі пляц вучэбкі. Патрабавалася рабіць акуратненькія сцэнкі са снегу. Мяне старэйшым прызначылі. І вось адзін хітры хлапец вырашыў не працаваць. Я пагаварыў з ім. Але падчас той нашай размовы міма ішоў палкоўнік, начальнік палітаддзела. Гэта значыць, уяўляеш, ідзе сабе начальнік, а я трошкі б'ю хлапца. Хаця як "б'ю". Так – цюкнуў па печані, каб сінякоў не было.

## Сувеніры са скарпіёнаў – вось табе і памяць пра Туркменію

Карацей, адправілі мяне ў Туркменію. Каракумская пустыня. Горад Мары. Скарпіёны, кобры – усё, што хочаш. Кавуны здаравенныя, дыні даўжэзныя, вінаград, як два тваіх кулакі. Мы яго даставалі ў вінаградніку, які быў размешчаны за знакамітай мячэццю. Яе можна убачыць у фільме "Белае сонца пустыні". На будынку нават таблічка адмысловая ёсць. Гэта горад Байрам-Алі. Дабраліся да яго кіламетраў восем па пясках са сваёй часткі. І ўсё дзеля вінаграду. Яшчэ з скарпіёнаў рабілі бірулькі.

**– Гэта як?**

– А вельмі проста. Скарпіён жа небяспечны толькі ў шлюбны перыяд. Акружаеш яго. Пасля збіралі анучы, ablівалі іх салярай, падпальвалі, выкладалі вакол скарпіёна. Ён носіцца-носіцца-носіцца па крузе, а потым сам у сябе ўпіваецца джалам. Хрась – труп. Заліваеш скарпіёна эпаксідный смалой – і шліфуеш. Мы ж пры Афганістане служылі. Так часам упрыгожвалі ўсё гільзамі. Плюс чарапахі. Разразалі іх, каб панцыр развальўся на дзве часткі, – атрымліваеш аснову для попельніцы. Панцыр, тры гільзы, скарпіён – вось табе і памяць аб Туркменіі. Звольніўся я пятага чысла. Прыляцеў у Беларусь на самалёце. Пачаў святкаваць. Восьмага прыйшоў мой першы трэнер – **Анатоль Бераснеў**. Кажа:

– Калян! Пойдзем!

– Куды?

– Да Бароўскага.

– Ну, пайшлі.

У выніку 20-га я ўжо гуляў за "Металург" другі тайм таварыскага матчу супраць "Ягелоніі". А 22-га мяне прынялі на работу. У 1989 я, у асноўным, набіраў форму. У 1990-м пачаў стабільна гуляць за "Металург". **Сяргей Уладзіміравіч Бароўскі**, дай Бог яму здароўя, мне давяраў. Я, здаецца, у яго сведкам быў на другім вяселлі. Не памятаю.

**– Ён заўсёды такі быў?**

– Так. Памятаю, я неяк на абед спазніўся. Каманда абедала ў рэстаране "Маладзечна". Прыходжу, а месцаў няма. Толькі за сталом трэнераў і адміністратараў адно крэсла. Ну, не бяда. Я хоць і малады, але мясцовы, з аўтарытэтам. Не саромеюся. Прысеў. А потым, памятаю, моцна здзівіўся. Насупраць мяне сядзеў Бароўскі і піў мінералку з лыжкі. Бярэ бутэльку, лье з яе на лыжку і адтуль п'е. Не ведаю, чаму так. Гэта ж трэнер. Нельга да яго пчапляцца з пытаннямі. Тым больш падчас прыёму ежы. Лыжка, мінералка – у кожнага свае прыбамбасы. Галоўнае, што Сяргей Уладзіміравіч мяне пасля арміі ў людзі вывеў. Я яму вечна буду ўдзячны.

Хоць Бароўскі заўсёды дыстанцыю трымаў. Скарацію толькі пару разоў. Мы неяк гулялі на Кубак Саюза сярод калектываў фізкультуры з "Тарпеда" з Арзамаса. Я пенальці пацягнуў. Усё выдатна. Ляцелі дадому з Ніжняга Ноўгарада. І перад самалётам спыніліся на прывал. Раптам Бароўскі да мяне падышоў і пытацца:

– Коля, а як ты так зрабіў?

– Сяргей Уладзіміравіч, гэта ж прынцып Яшына Льва Іванавіча.

Мікіта МЕЛКАЗЁРАЎ, by.tribuna.com

Працяг будзе.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" узмацнілася і перамагла "Ліду"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

У Лідзе 18 ліпеня адбылася першая сустрэча 1/16 фіналу Кубка Беларусі па футболе паміж мясцовым клубам і "Смаргонню".

– У Ліду "чырвона-чорныя" адправіліся з адзінай мэтай – перамагаць, – сказаў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – Пра гэта сведчыла і ўзмацненне складу. Напярэдадні матчу дазаявілі двух дасведчаных гульцоў. Гэта нападаючы **Ігар Крывабок**, які перайшоў з гродзенскага "Нёмана", і паўабаронца **Станіслаў Гнядзько.** Ён гуляў першую палову сезона-2015 у армянскім "Алашкерце".

Госці з першых хвілін заваладалі гульнёй. На 37-й хвіліне **Ігар Крывабок** пазмагаўся за верхавы мяч і прымусіў памыліцца варатара "Ліды". Адбіваючы мяч, той трапіў проста ў абаронцу, ад якога мяч закаціўся ў вароты.

На 50-й хвіліне **Яўген Калінін** выйшаў адзін на адзін з варатаром і з другой спробы забіў гол.

– Матч прайшоў пры поўнай перавазе "Смаргоні". Гаспадары за ўвесь матч нават не нанеслі ніводнага ўдару ў створ варот смаргонцаў, – дадаў Уладзімір.

Матч у адказ адбудзецца ў Смаргоні 1 жніўня.

ФК "Ашмяны" першы матч 1/16 фіналу Кубка праводзіла 18 ліпеня на дамашнім стадыёне. Каманда саступіла мікашэвіцкаму "Граніту" 1:3.

## "Смаргонь" саступіла "Сахаліну"

СМАРГОНЬ

"Смаргонь" 15 ліпеня ў таварыскім матчы дома сустракалася з клубам "Сахалін" з Паўднёва-Сахалінска. Расійскі клуб праводзіў у Беларусі трэніровачныя зборы. Смаргонцы прайгралі 0:1.

## Смаргонская "Вілія" лідзіруе

СМАРГОНЬ

У чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе "Вілія" (Смаргонь) 19 ліпеня выйграла ў гасцях 2:0 у "Нёмана" з Мастоў.

– У параўнанні з першым турам, сапернік узмацніў склад, – распавёў гулец "Віліі" Віталь Будай. – Абодва галы забілі пасля памылак абаронцаў: па адным у кожным тайме. У канцы матчу прызначылі пенальці ў нашы вароты, але наш варатар адбіў.

"Вілія" ўзначальвае турнірную табліцу ў групе "Поўнач".

## Дзве нічыя і паражэнне – у камандаў рэгіёна

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Дамашнія матчы чэмпіянату вобласці па футболе каманды рэгіёна правялі 19 ліпеня.

"Вілія" з Вілейкі мела добры шанец папоўніць ачковы багаж, бо сустракалася з камандай з нізу турнірнай табліцы – "Крупкамі-ДРБУ-164". Але не атрымалася – віляйчане прайгралі 1:3.

– Недаацанілі саперніка, – тлумачыць прычыну паражэння прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Думалі, лёгка выйграем. Забілі на 15-й хвіліне гол – вызначыўся **Аляксей Антановіч.** Мелі яшчэ два стопрацэнтныя моманты. А прапусцілі тры галы запар.

ДЮСШ-4 з Маладзечна згуляла ўнічыю 1:1 са "СМІаўтатрансам" (Смалявіцкі раён). Гол на рахунку **Максіма Чабрыцкага.**

Як і ў мінулым туры, "Забудова-Буд" згуляла ўнічыю. На гэты раз 3:3 з ФК "Фалько" з Дзяржынска.

## На турзлёце перамагла каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму

ВІЛЕЙКА

Традыцыйны адкрыты міжрэгіянальны турысцкі злёт працоўнай моладзі прайшоў з 10 па 12 ліпеня на беразе Вілейскага вадасховішча. Прысвечаны ён памяці **Віталя Кастэнкі.**

Прынялі ўдзел у злёце 10 камандаў – на дзве больш, чым летась.

Перамагла каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама (летась яна была другой). На другім месцы – прадстаўнікі райвыканкама, на трэцім – супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

## Срэбра і бронза мядзельскіх весляроў

МЯДЗЕЛ

У Пінску 10-12 ліпеня прайшлі Рэспубліканскія спаборніцтвы на прыз юнгі Альхоўскага па веславанні на байдарках і каноэ.

**Максім Лаўрынайць** з Мядзельскай СДЮШАР быў другім на дыстанцыях 200 і 2000 метраў. **Ягор Дземяшкевіч** заняў другое месца на дыстанцыі 200 метраў і трэцяе на кіламетровай дыстанцыі, распавяла інструктар-метадыст установы **Наталля Баран.**

Алесь ВЫСОЦКІ.

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Алены ЯКІМОВІЧ.

Са святочным караваем адзначаюць 485 год вёскі Яхімоўшчына. Шмат фота глядзіце на сайце






СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | | 9 | | 8 | 5 | | 6 |
| | | | | 6 | 2 | 3 | | |
| 5 | | | | | | 2 | | |
| 2 | | | | | 5 | 7 | 3 | |
| | | | | | | | | |
| | 4 | 9 | 6 | | | | | 5 |
| | | 2 | | | | | | 1 |
| | | 1 | 8 | 9 | | | | |
| 8 | | 5 | 2 | | 6 | | | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ЛІТАРАТУРА

# ТОП-10 твораў ад паэта Міколы Шабовіча, якія дазволяць адчуць сябе беларусам

МАЛАДЗЕЧНА.

**Запрашаем паўдзельнічаць у конкурсе, які ладзяць Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "Рэгіянальная газета".**

Каб перамагчы, вам трэба ад 15 чэрвеня да 15 верасня завітаць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы. Яна часова месціцца ў бібліятэцы "Верасок" па адрасе Вялікі Гасцінец, 121.

Пераможцаў вызначаць у верасні. Лепшых кнігалюбаў чакаюць падарункі. Каб было прасцей выбраць літаратуру, "РГ" друкуе спісы лепшых твораў на думку пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў сёлетнім Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

Прапануем спіс ад Міколы Шабовіча, паэта і мастацтвазнаўцы, выкладчыка БДПУ імя Максіма Танка, які нарадзіўся на Мядзельшчыне.

1. **Янка Купала** "Курган".
2. **Якуб Колас** "Новая зямля".
3. **Іван Мележ** "Людзі на балоце".
4. **Янка Купала** "Раскіданае гняздо".
5. **Уладзімір Караткевіч** "Каласы пад сярпом тваім".
6. **Васіль Быкаў** "Мёртвым не баліць".
7. **Аркадзь Куляшоў** "Сцяг брыгады".
8. **Алесь Дудараў** "Вечар".
9. **Якуб Колас** "На ростанях".
10. **Іван Шамякін** "Трывожнае шчасце".

**Падрыхтавала Таццяна ЗАКРЭЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Міньёны**", 3D (ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 15:20
25 ліпеня – у 13:00
26 ліпеня – у 12:30
27, 29 ліпеня – у 14.50
(30 000 рублёў)
28 ліпеня – у 17:10
(55 000 рублёў)

Фантастычны баявік "**Чалавек-муравей**", 3D (ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24, 25 ліпеня – у 19:40
25 ліпеня – у 15:00
26 ліпеня – у 16:50
26, 28 ліпеня – у 21:30
27, 29 ліпеня – у 19:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, фантастыка, камедыя "**Пікселі**", 3D (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24, 25 ліпеня – у 17:20
(55 000 рублёў)
24, 25 ліпеня – у 22:00
(60 000 рублёў)
26 ліпеня – у 14:30
(55 000 рублёў)
26, 28 ліпеня – у 19:10
(55 000 рублёў)
27, 29 ліпеня – у 16:50
(45 000 рублёў)
27, 29 ліпеня – у 21:30
(55 000 рублёў)
28 ліпеня – у 14:50
(45 000 рублёў)
30 ліпеня – у 18:40
(55 000 рублёў)

Прэм'ера! Камедыя "**Антураж**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
30 ліпеня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, дзіцячы "**Какоша - маленькі дракон**", 3D (Германія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 ліпеня – у 16:50
Цана білета: 15 000 рублёў

*АЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя, прыгоды, сямейны "**Прыгоды Паддынгтона**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25, 26 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 ліпеня – у 21:00
25 ліпеня – у 19:00
26 ліпеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер, жахі "**Рука д'ябла**", (ЗША, 2014, пасля 16 год)
24 ліпеня – у 19:00
25, 26 ліпеня – у 21:00
27 ліпеня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Бабай**", (Украіна, Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
25 ліпеня – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Оз: Вяртанне ў Ізумрудны горад**" (ЗША, Індыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
26 ліпеня – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**За трыдзевяць зямель**" (Данія, Швецыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
27 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Індыкі: Назад у будучыню**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
28 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
29 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды маленькіх італьянцаў**" (Расія, Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Дэтэктыў, трылер, жахі "**Пакт 2**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
28 ліпеня – у 21:00
29 ліпеня – у 19:30
30 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Кінодзяцінства: Машыны казкі. Канёк-гарбунок у гасцях у казачніцы**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 14:30
25 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Драма "**Белы бог**" (Венгрыя, з 18 год)
24 ліпеня – у 18:00
25 ліпеня – у 17:30
26 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Меладрама "**Яшчэ адзін год**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 ліпеня – у 20:30
25 ліпеня – у 20:00
26 ліпеня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Болт і Бліп спяшаюцца на дапамогу**" (Канада, без узроставых абмежаванняў)
26 ліпеня – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Захавальнік месяца**" (3D, Францыя без узроставых абмежаванняў)
24 ліпеня – у 14:00
25 ліпеня – у 14:30
26 ліпеня – у 12:00
Цана білета 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Чалавек-мурашка**" (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
24 ліпеня – у 18:30
25 ліпеня – у 17:00 і 21:30
26 ліпеня – у 16:30 і 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Жахі, трылер "**Убраць з сяброў**" (2D, ЗША, 2015, з 18 год)
24 ліпеня – у 21:00
25 ліпеня – у 19:30
26 ліпеня – у 19:00
Цана білета:: 45 000

Анімацыя "**Пінгвіня Параро: Вялікія гонкі**" (3D, Прыгоды Паўднёвая Карэя, Кітай без узроставых абмежаванняў)
25 ліпеня – у 14:00
26 ліпеня – у 14:30
Цана білета 25 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
24-30 ЛІПЕНЯ



**Авен.** Не дазваляйце пабочным асобам умешвацца ў ваша жыццё, бо іх добрыя парады могуць прывесці да плаксівых вынікаў. Звяртайце ўвагу на здароўе. Бо ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.



**Цялец.** Перш чым выказваць сваё меркаванне, варта добра прадумаць словы, якія вы збіраецеся сказаць. Крытычныя выказванні варта трымаць пры сабе.



**Блізняты.** Не будзьце такія запальчывыя і нецярплівыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з калегамі, ні з блізкімі. Добра яшчэ, што вас здаровы розум утрымлівае ад неабдуманых учынкаў.



**Рак.** Сканцэнтруйце свае сілы і ўвагу на самай важнай справе. Толькі ў гэтым выпадку вы зможаце давесці яе да канца, і вынікі будуць выдатнымі.



**Леў.** Каб зберагчы здароўе, кіруйцеся прымаўкай "Работа не воўк, у лес не ўцячэ". А яшчэ вы атрымаеце адказ на даўно хвалюючае пытанне. Дзіўна, але ўсё акажацца значна прасцей, чым вы ўяўлялі.



**Дзева.** Праца працай, але не забывайцеся пра ўласнае жыццё. Калі маеце справу з вялікімі грашыма, сем раз падумайце, куды іх патраціць.



**Шалі.** Старайцеся пазбягаць чужых канфліктаў, ёсць небяспека апынуцца іх удзельнікам. Яшчэ вы зможаце дабіцца выдатных вынікаў і здзейсніць прарыў у прафесійнай сферы. Гэта абавязкова будзе адзначана калегамі і кіраўніцтвам.



**Скарпіён.** Пераадолейце ўнутраныя сумненні, якія скоўваюць вас мацней за любыя знешнія перашкоды, выберыце свой шлях і пачніце дзейнічаць – поспех не за гарамі.
о вас хвалявала цяпер.



**Стралец.** Наладзьце сустрэчу для абмежаванага кола людзей, размовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дапамогуць узнавіць баланс у вашых бурных эмоцыях.



**Казярог.** Не звяртайце ўвагу на дробныя падкопы лёсу.



**Вадалей.** Калі ўзнікла якая-небудзь складаная сітуацыя, нічога не прадпрымайце. Усё вырашыцца само па сабе. Давярцеся інтуіцыі.



**Рыбы.** Вам трэба правільна размеркаваць свой час. Адну яго частку аддавайце рабоце, другую – адпачынку, а трэцюю – асабістаму. Толькі так вы адчуеце сябе больш свабодна.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

### 25 ліпеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +21 | | +12 / +25 | | +21 / +18 | | +14 / +20 | |
| | 741 | ↓ 2 | 740 | ↖ 8 | 737 | → 3 | 739 | ← 4 |
| Вільня | +12 / +20 | | +12 / +25 | | +21 / +18 | | +14 / +19 | |
| | 71 | → 4 | 747 | ↖ 7 | 747 | → 6 | 748 | ↑ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.13
Захад 21.25
Даўжыня дня 16.12

Усход 15.25
Захад 20.28
Квадра 2

| Горад | | | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +13 | +23 | 749 | ↖ 4 |
| Гродна | +14 | +27 | 747 | ↖ 7 |
| Мінск | +12 | +25 | 740 | ↖ 8 |
| Магілёў | +11 | +22 | 748 | → 3 |
| Брэст | +14 | +31 | 743 | ↖ 7 |
| Гомель | +11 | +26 | 747 | ↖ 2 |

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +7,1 °С у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +29 °С у 2012 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 34,4 мм у 1980 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Ці рэальна ўвасобіць культурна-турыстычны праект на Замчышчы сям'і Агінскіх пад Маладзечнам?



### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці падманвалі вас прадаўцы?

**Наталля Бойка, выхавальніца:**
– Калі куплю прадукты на рынку, то нават не ведаю, як можна праверыць агульны кошт прадукту. Звычайна кажуць цану, ты аплачваеш, квітка пры гэтым не атрымліваеш. Некаторыя прадаўцы на рынку не даюць табе самастойна выбраць садавіну альбо гародніну. Калі набываю ў магазіне, то правяраю чэк.

**Алег Фёдараў, станочнік:**
– Не магу сказаць дакладна, ці падманвалі мяне. Звычайна з большага лічыш суму і арыентуешся на яе. Асабліва, калі купляеш вельмі многа прадуктаў.

**Канстанцін Яхімовіч, пенсіянер:**
– На рынку вагі ставяць так, што не бачна, што на табло. Таксама ў некаторых прадавачак вагі загароджаныя рознымі скрынямі, што таксама перашкаджае, калі глядзіш на табло. Таксама часта пакупнік не бачыць, дзе рукі прадавачкі – а можа яна прытрымлівае вагі, каб такім чынам набавіць вагі прадуктам. Аднак гэта на іх сумленні.

**Алена Бабаева, у дэкрэтным адпачынку:**
– Напэўна бывае так, што прадаўцы могуць выпадкова падмануць. Асабліва тады, калі многа пакупнікоў. Чалавек жа не робат. Для мяне няма розніцы, дзе набываць прадукты, на рынку альбо ў магазінах.

**Наталля Сапко, выхавальніца:**
– Не магу сказаць, ці падманвалі мяне прадаўцы, бо не звяртаю ўвагі на чэкі, лічу з большага суму пакупкі.

**Дзяніс Шавардак, міліцыянер:**
– Не прыпомню, каб мяне падманвалі падчас куплянне.

**Таццяна Красоўская, пенсіянерка:**
– На рынку часта з добрай садавіной спрабуюць пакласці гнілаватую. А аднойчы купляла пернікі, сказалі – свежыя. Дамоў прыйшла і заўважыла, што верхнія свежыя, а ўнізе – цвёрдыя. Таксама на рынку часта абважваюць. Стараюся не хадзіць у тыя павільёны, дзе аднойчы падманулі. Калі набываю прадукты ў магазіне, правяраю тэрмін прыдатнасці, садавіну і гародніну памацаю.

Падрыхтавалі Настасся РОЎДА, Галіна СІНІЦА.

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 30 (1056) 24.07.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 971. Падпісана ў друк у 9.00 23.07.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.